ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 12 (снежань) 2015

У нумары:






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Ганны КІСЛУШЧАНКІ.

*

Воз
прыгод
пад
Новы год
і
Міні-кніжка




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ
і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.





Малюнкі
Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

## *Шаноўныя чытачы!*

Усёй вожыкаўскай сям'ёй мы сардэчна віншуем вас з надыходзячымі навагоднімі святамі! Няхай у вашым доме заўсёды будзе ўтульна і весела, а само жыццё складваецца толькі са шчаслівых і радасных імгненняў, у складаныя хвіліны звяртайцеся да «Вожыка»: ваш калючы сябра ўмомант знішчыць кепскі настрой. У 2016 годзе яму ў гэтым дапаможа жартаўлівая свавольніца Малпа, таму сумаваць не давядзецца дакладна!

Ахінуты святочнай атмасферай студзень ужо не за гарамі, а гэта значыць, што мы можам крышачку прыадчыніць заслону тайны і расказаць пра адзін з падарункаў, які чакае вас у наступным годзе. «Вожык» будзе распавядаць пра іншыя сатырычныя часопісы, якія пачалі выходзіць у розных краінах СССР у першай палове XX стагоддзя. Для больш шчыльнага знаёмства з пабрацімамі ёсць нагода: 2016 год – юбілейны для нашага выдання (75 гадоў таму з'явіўся легендарны прабацька «Вожыка» – агітплакат «Раздавім фашысцкую гадзіну»). Акрамя гэтага, будзе зменены знешні выгляд часопіса. Мяркуем, што абноўлены «Вожык» прыйдзецца вам даспадобы!

Ведайце, шаноўныя чытачы, што мы вельмі ўдзячныя ўсім з вам! Вожыкаўцам заўсёды становіцца цяплей на душы ад думкі, што ў кожным куточку Беларусі ёсць тыя, каму часопіс дорыць усмешкі і пазітыў. А значыць наша праца не марная. Дзякуем вам за падтрымку, за вашыя лісты, званкі, візіты! Мы шчыра спадзяёмся, што наступны год вы таксама правядзеце ў кампаніі з «Вожыкам»!



З найлепшымі пажаданнямі,
ваш сябра «Вожык».

**P.S.** Дзелімся прыемнай навіной з актыўнымі інтэрнэт-карыстальнікамі: цяпер з «Вожыкам» можна мець зносіны ў сацыяльных сетках:

«Вконтакте» (https://vk.com/vozhykby);
«Facebook» (https://facebook.com/vozhykby);
«Twitter» (https://twitter/vozhykby).

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**




Збіраўся красці — ішоў з аглядкай. Украў — пабег без аглядкі. Разбагацеў?

Каля пад'езда плакала няўцешная маладзіца: сышоў з дому... бульдог.

Любіш катацца — купі веласіпед.

Сусед пазайздросціў табе, а ты пазайздросць яму. Будзе раўнавага.

У нагах праўды няма. Але як яе дабіцца без хадзьбы?

Хто шукае, той знаходзіць. Аднак што?

Не крадзі ў блізкага — суседзі ўбачаць.

Ваўка ногі кормяць. А паляўнічага?

Не капай яму, каб нехта ў яе ўваліўся. Лепш пасадзі дрэўца.

Мода — той жа заяц: за ёй не ўгонішся.

Перад Богам усе роўныя. А перад начальствам?

Каб часцей смяяцца, трэба радзей плакаць.

Не кажы гоп, а лепш пакажы, як трэба скакаць.

Купіў — не прапіў. А замачыць?

Дамагаўся ўсяго — жыць хацеў. Дамогся ўсяго — жыць расхацелася.

Ці заўсёды трэці лішні... падчас выпіўкі?

Не шукай ветру ў полі: ён сам цябе знойдзе.

Смяецца той, хто... смяецца.

У каго сем пятніц на тыдні, таму астатнія дні непатрэбныя.

Заўсёды верыў у знакі. Але толькі ў грашовыя.




Малюнак Алега ПАПОВА.

---

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## Дзед Мароз з-за мяжы



*Гумарэска*

Быў канец снежня. Я, жонка і пяцігадовая дачка Даша адпачывалі ў загарадным доме. Упрыгожылі ёлку, накупілі прысмакаў...

Дагэтуль мы віншавалі малую самі. У гарадской кватэры захоўваліся касцюмы любімага ўсімі Дзеда Мароза і яго ўнучкі. Цяпер патрабаваўся арыгінальны падыход, а ідэй не было.

Нарэшце вырашылі непрыкметна падкласці падарунак пад ёлку. Расказалі дачцэ, як у іншых краінах казачны чараўнік спускаецца ў дом праз комін і незаўважна пакідае дзецям сюрпрызы.

Даша засталася задаволенай такім апавяданнем, хоць ёй вельмі хацелася пагутарыць з госцем. Па вялікім сакрэце яна паведаміла, што падпільнуе ноччу Дзеда Мароза з-за мяжы. Мы з гэтага толькі пасмяяліся...

Надышла ноч. Я выйшаў з пакоя з падарункам. Каб не разбудзіць дачку, ступаў ціха. Прызвычаіўшыся да цемры, пачаў бачыць, як днём. Калі паклаў пакунак пад ёлку, пачуліся крокі. Гэта была Даша.

Каб не выдаць сябе, хутка падышоў да шафы і схаваўся ў ёй. Высветлілася, што там віселі забытыя намі ўборы Дзеда Мароза і Снягуркі. На ўсялякі выпадак вырашыў пераўвасобіцца ў чараўніка. Касцюм унучкі пасунуў у куток шафы.

Даша ў піжаме і тапачках прабралася ў пакой. Агледзелася.

— Тут хтосьці быў, — прамовіла дзяўчынка.

Пачала прыглядацца да ёлкі.



# Не сыпце соль!

Кожны год адну карціну
Бачу я ў зімы разгар:
Едзе жоўтая машына,
Сыпле соль на тратуар.

Мы ад раніцы да ночы
Бегаем — і, як на зло,
Гэтай соллю боты мочым
Ды нясём яе ў жытло.

Як збіраешся на працу,
На абутак паглядзі —
Пэўна, будуць праяўляцца
На ім белыя сляды.

Я ўявіў сабе, што потым
Вынаходцы-дзівакі
Ў гэтакіх салёных ботах
Стануць квасіць агуркі...

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*



## Ну, Новы год, пачакай!




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Міхася СТЭФАНЕНКІ.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.

— Ну, вядома, ён схаваўся пад зялёнай прыгажуняй, — прыўзняла малая галінкі дрэва.

— Не, няма. Як жа не здагадалася: дзядуля схаваўся ў шафе! Я так заўсёды раблю, калі гуляю ў хованкі.

Даша падышла да шафы, адчыніла дзверцы. Запляскала ў ладкі.

— Так і ведала! Хоць і замежны Дзед Мароз, а ўсё адно робіш, як наш. Добрай ночы, — сказала яна паўшэптам.

Я пастараўся змяніць голас і як мага больш упэўнена прамовіў:

— Good night!

— Дзядуля, ты размаўляеш на замежнай мове! А па-нашаму не разумееш? Сорамна ў такім узросце моў не ведаць. І як табе толькі візу далі?

Давялося прымяніць замежны акцэнт.

— Трохі разумець!

— Тады лепш! Шкада, бацькі спяць... Але ж яны мне заўтра не паверацьт, што я цябе бачыла. Трэба іх паклікаць сюды, — вырашыла Даша.

— Няхай адпачываюць! — захваляваўся я. — Гэта будзе наш сакрэт.

— Добра, — пагадзілася малая. — Сакрэты я люблю. А яшчэ — прысмакі. Чаго мы тут чакаем? У халадзільніку столькі смачнага! Хадзем частавацца, — сказала Даша і павяла мяне на кухню.

На стале стаяў торт, у кубкі быў наліты кампот. Разам з дачкой мы ўплыталі пачастунак, які жонка купіла да святочнай ночы.

— Дзядуля, а як цябе зваць? — распытвала Даша.

— Фазэр Крыстмас, — прадставіўся я, узгадаўшы, што загаварыў на англійскай мове.

— Ого, якое моднае імя! Скажы, а ў вас так сапраўды віншуюць дзяцей?




# Камп'ютар ці жывы чалавек?



*Міні-фельетон*



Мабыць, няма на зямлі такога чалавека, у якога б ніколі не было ніводнай дрэннай звычкі. Але зусім не ва ўсіх яна перарастае ў сапраўдную залежнасць, ад якой пакутуе і сам уладальнік, і яго акружэнне.

Давайце паспрабуем узгадаць самыя распаўсюджаныя згубныя прыхільнасці: алкагольная, наркатычная, нікацінавая, празмерная прага да азартных гульняў, абжорства. Аднак мала хто ведае, што існуе яшчэ адна залежнасць, у пастку якой апошнім часам трапляе ўсё больш і больш народу. Гэта нездаровая цяга да камп'ютара, інтэрнэту. Яна стала сапраўдным нашэсцем, хваробай сённяшняга дня. Пакутуюць ад яе і дзеці, і дарослыя, якія, акрамя манітора, нічога не заўважаюць. Іх не цікавіць, што робіцца ў свеце, нават тое, чым жывуць родныя і блізкія, не мае аніякага значэння. Для такіх «пацыентаў» галоўны сябар – бяздушная машына, і больш ім ніхто не патрэбен. Залежныя ад віртуальнай прасторы могуць днямі ці нават тыднямі не вылазіць з сацыяльных сетак, гульняў, розных забаўляльных сайтаў.

Напрыклад, жанчына з Баранавіч у прамым сэнсе прамяняла свайго сына на камп'ютар. Зусім не звяртала ўвагі на хлопчыка, выхаваннем якога ўвогуле займалася бабуля. Трывогу забілі настаўнікі, калі заўважылі, што вучань пачаў прыходзіць у школу недагледжаным, без неабходных прылад. Акрамя таго, ён значна адставаў у вучобе ад сваіх аднакласнікаў: дрэнна чытаў, павольна лічыў.

Калі сацыяльныя педагогі завіталі да хлопчыка дамоў, ім удалося пагаварыць толькі з бабуляй, якая расказала невясёлую гісторыю:

– Мая дачка не выхоўвае сына, мала таго, што без работы сядзіць, дык яшчэ ўвесь час за камп'ютарам праводзіць. Унукам займаюся я. Можа, вы як паўплываеце на гора-маці, бо я ўжо не ведаю, што рабіць...

Так з сям'ёй пачаў працаваць псіхолаг. Жанчыне дапамаглі пазбавіцца ад залежнасці, нават уладкавалі на працу. Здаецца, усё пачало наладжвацца, але хапіла такога дабрабыту толькі на паўгода. Прага да бяздушнай машыны перамагла мацярынскую любоў. Сын зноў стаў ёй непатрэбны.

Пасля гэтага сітуацыю ўзялі пад кантроль спецыялісты камісіі па справах непаўналетніх Баранавіцкага гарвыканкама. У выніку яны прынялі рашэнне забраць хлопчыка ад маці і перадаць яго ў дзіцячы дом сямейнага тыпу.

Так з-за камп'ютарнай залежнасці маці страціла сына. Але нават такая суровая мера ніяк не паўздзейнічала на жанчыну: яна не спрабуе вярнуцца з віртуальнага свету ў рэальны і зрабіць нешта для таго, каб хлопчык зноў аказаўся дома.

Мы ўсё ж такі спадзяёмся, што недарэка-маці возьмецца за галаву, што мацярынскі інстынкт пераможа. Гэта ж так відавочна: ніякі камп'ютар ніколі не заменіць роднага чалавека.





– Так, – заківаў я галавой. – Перад святам дзеці пішуць мне лісты. Расказваюць, чым яны займаліся гэты год. Затым складаюць спіс падарункаў і спальваюць пасланне ў каміне. Я ж даведваюся аб жаданнях дзятвы ад дыму. А пасля прыходжу праз комін і пакідаю сюрпрызы.

– Але ж праз дзверы заходзіць прасцей! – здзівілася малая.

– Так, але гэтак цікавей! Прыкольна, па-вашаму.

– Ну, ты, дзядуля, экстрэмал! А што ты мне падарыў?

– Самакат.

– Ты самы лепшы дзядуля на зямлі! – усклікнула Даша. – Вось я паўгода прасіла тату купіць самакат, а ён толькі абяцаў! Эх, заўтра яму будзе сорамна!

– Але ж ён абяцаў...

– Так, але не выканаў! – надзьмула шчокі дзяўчынка.

– Ён шмат працуе, – пачаў я апраўдвацца.

– Фазэр, ты цяпер кажаш, як ён: працуе, заняты... А са мной хто гуляць будзе?

– Мама.

– Яна прымушае штораніцы чысціць зубы, мыцца, а яшчэ есці аўсяную кашу!

– Ну, гэта ж карысныя звычкі.

– Усе вы так, дарослыя, кажаце. А нам, дзецям, хочацца зусім іншага: вагон марожанага і шакаладу, скакаць па ложках, гуляць з сябрамі ў хованкі. А аўсянка пачакае!

– Але ж ты ўсё роўна любіш бацькоў?

– Вядома, люблю. Хоць, дзядуля, скажу табе па сакрэце, – і тут Даша нахілілася над маім вухам, як быццам збіралася выдаць вялікую таямніцу, – мама зусім не кахае тату.

– Як?! Адкуль ты ведаеш?!

– Яна мне ўвесь час кажа: «Вось калі б у цябе быў такі тата, як Яўген Аляксандравіч, ты была б шаўковай дзяўчынкай!»

– А хто гэта, Яўген Аляксандравіч?

Віншуем!



*З 80-годдзем*
*Ніну Васільеўну ГАЛІНОЎСКУЮ, беларускую паэтэсу. Яе павучальныя па змесце вершы, напоўненыя жывымі і запамінальнымі вобразамі, ведаюць усе маленькія вожыкаўцы: Ніна Васільеўна – пастаянны аўтар «Калючыка». Педагог па адукацыі, яна прысвяціла сваё жыццё і творчасць дзецям. Чытач пабачыў цэлы шэраг кніг паэтэсы, кожная з якіх – захапляльная вандроўка ў казачны свет дзяцінства.*
*Жадаем Ніне Васільеўне моцнага здароўя, творчага натхнення і добрага настрою!*




*З 60-годдзем*
*Анатоля Іванавіча ГАРМАЗУ, беларускага мастака-карыкатурыста. Сапраўднага вожыкаўца, які амаль 20 гадоў супрацоўнічаў з нашай рэдакцыяй. У «Бібліятэцы «Вожыка» выйшла першая кніга карыкатур майстра – «Да бар'ера!» (1988). Сёння Анатоль Іванавіч – генеральны дырэктар уласнай выдавецкай фірмы. Ён з'яўляецца заснавальнікам шэрагу папулярных выданняў, у тым ліку гумарыстычнай газеты «15 сутак», якая дорыць чытачам цудоўны настрой.*
*Жадаем Анатолю Іванавічу заўсёды заставацца ў добрай форме і яшчэ доўгія гады радаваць нас сваімі вясёлымі малюнкамі!*

Сяброўскія шаржы Аляксандра. КАРШАКЕВІЧА




Сапраўдны твар чалавека хаваецца не за грымам.

Я не сустрэў вас... Мне пашанцавала.

Не ўсе ідэі выходзяць з галавы.

Навошта чалавеку каханне? Ёсць жа грошы!

Нас, гуманоідаў, так мала ў сусвеце...

Цікава ўсё ж, ці ёсць жыццё на Марсе і мяса ў каўбасе?

Я такківаў! А ты і не пачула...

Цяпер бясплатнай распусты больш, чым платнай.

**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

---

– Гэта наш выхавацель у садку. Заўсёды сочыць, каб мы ўсё выконвалі згодна з раскладам. Але я яго ніколі на тату не прамяняла б. Нават калі б ён падарыў самакат.

– Малайчына! – адлягло ў мяне ад сэрца. – А яшчэ якія таямніцы пра маму ты ведаеш?

– О, які ты цікаўны, замежны госць. Добра, адкрыю табе яшчэ адну. Аднойчы мама мне і кажа...

У гэты момант у дзвярах кухні з'явілася жонка. Яна не паверыла сваім вачам і прыкметна разгубілася.

– Даша? Чаму ты не ў ложку? І хто твой госць?

– Мама, – радасна адказала дачка, – гэта замежны чараўнік Фазэр Крыстмас.

– О, yes, yes, – энергічна пацвердзіў я.

– Ён падарыў мне самакат, які тата абяцае паўгода! А яшчэ я яму расказала сёе-тое, але гэта цяпер толькі наш сакрэт. Праўда, чараўнік?

– О, yes!

Жонка паглядзела на мяне і не пазнала. Я ж адчайна «сігналіў» ёй вачыма, каб не выдавала мяне. Нарэшце яна ўсё зразумела.

– Але зараз позна, а ў Фазэра Крыстмаса вельмі шмат спраў. Яму трэба пакінуць падарункі іншым дзецям, а табе час спаць.

– Вось так заўсёды, – уздыхнула малая і сказала. – Тады я праўду Фазэра. Ты, дзядуля, выходзь з хаты не праз комін, а праз дзверы. Вось убачыш, так лепш.

– Ok, – пагадзіўся я.

Не заставалася нічога іншага, як сысці ў ноч з уласнага дома...

Начаваць давялося ў гаражы. Раніцай, калі Даша яшчэ спала, непрыкметна вярнуўся ў дом. Распрануўся і лёг у ложак.

– Ну, як справы, замежны госць? Не замерз? – спытала жонка і пазяхнула.

Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Кругаварот

Вечар. Тэлевізар. Адзінота.
Пазяханне. Серыял. Брыдота.
Сон. Будзільнік. Радыё. Світанак.
Рукамыйнік. Кухня. Стол. Сняданак.
Чаравікі. Капялюш. Паперы.
Лесвіца. Сусед. Вяртанне. Дзверы.
Бег. Трамвай. Гамонка. Цісканіна.
Кабінет. Разлікі. Пісаніна.
Тэлефон. Званок. Сябрук. Размова.
Рогат. Шэф. Натацыя. Вымова.
Крыўда. Думкі. Кіпень. Чай. Пячэнне.
Заканчэнне. Бег. Трамвай. Спазненне.
Лаянка. Чаканне. Нецярпенне.
Цісканіна. Святлафор. Рыпенне.
Кантралёр. Талончык. Пошук. Марнасць.
Спрэчка. Штраф. Насмешкі. Салідарнасць.
Выхад. Крама. Хлеб. Смятана. Манка.
Грошы. Недастача. Ашуканка.
Двор. Пад'езд. Паверх. Замок. Кватэра.
Рукамыйнік. Кухня. Стол. Вячэра.
Тэлевізар. Пульт. Канал. Праграма.
Серыял. Канцэрт. Футбол. Рэклама.
Меладрама. Прыгажосць. Каханне.
Рэўнасць. Прымірэнне. Пазяханне.
Цыгарэта. Ноч. Балкон. Курэнне.
Ложак. Сон. Будзільнік. Паўтарэнне...

---

– Мне не страшны холад, – усміхнуўся я.

Нечакана адчыніліся дзверы і ў наш пакой забегла радасная Даша.

– Тата, хопіць спаць! Гэтай ноччу замежны Дзед Мароз падарыў мне самакат! Мама яго бачыла і цяпер не скажа, што я маленькая манюка. Мы з'елі з ім увесь торт, таму трэба ісці ў краму па новы.

Я ўстаў з ложка і пачаў збірацца.

«Сапраўды, – падумалася мне, – замежны Дзед Мароз падарыў Дашы самакат, а я – нічога. Трэба выпраўляцца. Можа, тады дачка выдасць мне таямніцу пра маму, якую не паспела расказаць Фазэру Крыстмасу?»

На вуліцы сыпаўся густы снег. Да часу цудаў заставалася зусім няшмат...

*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Валянціны КАСЯК.

# Асаблівы Новы год

*Фельетон*




Аліна і Артур ажаніліся летам. Напярэдадзе маладую пару чакала іх першае сапраўднае сямейнае свята – Новы год. Таму Аліна яшчэ восенню пачала планаваць, як адзначыць са сваім мужам гэты дзень. Неўзабаве прыдумала некалькі варыянтаў і ў самым пачатку снежня, прыйшоўшы вечарам з працы, вырашыла расказаць пра іх Артуру.

Той якраз сеў за камп'ютар, загрузіў гульню «Танкі» і ў адно імгненне перамясціўся ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Дарэчы, выцягнуць яго з гэтага электроннага свету не было магчымасці гадзіны дзве. Аліна спачатку крыўдавала, а потым неяк змірылася: хай гуляецца. Мужчыны, колькі б гадоў ім ні было, застаюцца маленькімі дзецьмі.

Жонка рашуча падышла да Артура, паклала руку яму на плячо і сказала:

– Любы, нам трэба сур'ёзна пагаварыць.

Муж імгненна перастаў метадычна ціснуць на кнопку мышкі, неяк знерухомеў нават. Пасля павольна павярнуўся да Аліны, здзіўлена і трохі спалохана паглядзеў на яе, ціха прамовіў:

– Што здарылася? Я ні ў чым не вінаваты: за камп'ютар толькі-толькі сеў, нідзе нічога не параскідваў, зарплата заўтра будзе. Нават посуд вымыў...

– Посуд вымыў – малайчына. Грошы заўтра на картку пералічаць – гэта ўвогуле цудоўна. Але я зараз наконт Новага года хачу з табой пагаварыць, – удакладніла Аліна.

– Дык вось якая «сур'ёзная размова»! Я ажно напужаўся, думаў, нешта дрэннае збіраешся расказаць. А што з ім не так? Яшчэ амаль месяц да свята, навошта яго зараз планаваць? – не зразумеў Артур.

– Як навошта? – абурылася жонка. – Гэты дзень павінен быць асаблівым.

– Цішэй-цішэй, – пачаў супакойваць яе муж. Як я разумею, ты ўжо нешта прыдумала?

– Вядома! У мяне нават некалькі варыянтаў! – павесялела Аліна. – Прапаную паехаць у падарожжа. Напрыклад, у Прагу ці яшчэ куды ў Еўропу.

– Добра, давай паглядзім і палічым, колькі гэта будзе нам каштаваць, – з гэтымі словамі ён увёў у інтэрнэт-пошуку запыт «Навагоднія туры ў Еўропу». – Вось глядзі, першы аператар прапаноўвае паездку ў Прагу на пяць дзён. Яна ўключае ў сябе розныя экскурсіі, пражыванне ў трохзоркавым атэлі, сняданкі і шмат чаго іншага. Усё гэтае шчасце каштуе чатыры з паловай мільёны рублёў на чалавека.

Зазірнуўшы яшчэ на некалькі сайтаў, Артур выказаў свой вердыкт:

– Такое святкаванне Новага года абыдзецца не танна. Пуцёўка на дваіх ад сямі мільёнаў – гэта самы просты варыянт, да дзесяці і нават больш – тыпу «Усё ўключана». Але ж нам яшчэ і з сабой трэба ўзяць нейкія грошы на падарункі, сувеніры, ежу, ды і візу давядзецца зрабіць...

– Ого! Я нават не думала, што гэта так дорага. Не, лепш летам на мора з'ездзім. Тады, можа, у якім рэстаране адсвяткуем? У Мінску шмат такіх, што ў навагоднюю ноч да самай раніцы працуюць. Там весела. Дзед Мароз, Снягурка, розная смаката на стале, цікавая праграма, конкурсы, танцы! – ажывілася жонка.

– Ведаеш, майму сябру Толіку яго палавінка таксама прапанавала такі варыянт. Абзванілі яны некалькі месцаў, адразу скажу, што нават не самых прэстыжных. За ўсё




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Валянціны КАСЯК.

# Анекдоты

***

Людзей зусім не хвалюе, дзе яны знаходзяцца сёння і дзе будуць заўтра, але як правесці Новы год, яны мэтанакіравана плануюць з верасня.

***

– Падарыў жонцы на Каляды кнігу «Як эканоміць грошы».

– Ну, ці добра ў яе гэта атрымліваецца?

– Кажа, што нармальна. Я кінуў курыць і схуднеў на шэсць кілаграмаў...

табой пералічанае ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня давядзецца заплаціць прыкладна два мільёны на чалавека. А табе яшчэ захочацца ва ўсім новым гэтае свята сустракаць... Вось і падлічы, ці можам мы дазволіць сабе такую раскошу.

У Аліны канчаткова сапсаваўся настрой. Ледзь не плачучы, яна спытала:

– Тады што нам рабіць? Я хачу запомніць нашае першае сямейнае свята.

– Не перажывай, дурненькая! – усміхнуўся муж. – Можам дома ўдваіх адсвяткаваць. Прыгатуем рознай смачнай ежы, я абяцаю дапамагчы. Альбо паехалі да бацькоў. Яны будуць толькі радыя.

– Да бацькоў можна. Але ведаю я сваю і тваю матулю. Як ні ўгаворвай, а перад гэтым ноч спаць не будуць – нагатуюць столькі, што на роту салдат хопіць. Лепш на Каляды да іх з'ездзім.

– Тады я знайшоў ідэальнае выйсце! – Артур амаль свяціўся ад таго, што ў яго ўзнікла цікавая ідэя. – Нас жа запрашалі да сябе ў госці Ганна і Алесь. Можа, пагодзімся? Мяркую, будзе весела. А на сэканомленыя грошы купім табе новую сукенку.

– Чаму б і не! – у Аліны ажно загарэліся вочы. – Так і свята правядзём у цудоўнай кампаніі, і сямейны бюджэт захаваем, і бацькоў турбаваць не будзем. Які ты ў мяне малайчынка! За паўгадзіны адшукаў добрае выйсце са становішча, а то я ўжо два тыдні сабе месца не знаходжу, усё думаю і думаю пра гэты Новы год. За тое, што ты такі цудоўны муж, пайду прыгатую табе чаго-небудзь смачненькага.

З гэтымі словамі Аліна пайшла на кухню. Артур усміхнуўся, пакруціў галавой, маўляў, вось ужо тыя жанчыны, і зноў уключыў сваю гульню.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.






Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




**Васіль НАЙДЗІН**




# На карнавале

*Гумарэска*

Можа, таму, што з неба падалі бялюткія сняжынкі і адусюль падміргвалі сотні рознакаляровых лямпачак, ці, можа, таму, што да Новага года заставалася некалькі дзён, — я нібы на крылах ляцеў дадому з пахкай елкай у руках. Ляцеў сказаць жонцы некалькі ласкавых слоў. Ну, напрыклад: «Што там у цябе сёння на вячэру, любая?» Або: «От, надвор'е, як па заказу... Памятаеш наш першы навагодні баль? Сняжынкі, лямпачкі... І цяпер такое ж...»

Але рашыў, што гэта дужа банальна. Трэба прыдумаць нешта больш свежае.

І вось родны парог.

— Снягурачка ты мая! — ні з таго, ні з сяго крычу жонцы, не паспеўшы яшчэ прапіхнуць елку ў калідор...

А жонка:

— А я не Снягурачка. Я — Ліса!

Ад такіх слоў у мяне ўмомант натапырыліся вушы. Як гэта мая жонка, маці двaіх дзяцей, мае нейкае дачыненне да гэтага хітрага...

— Не здзіўляйся, мой Заінька! Ты ж яшчэ на мінулым тыдні даў слова пайсці на навагодні баль-маскарад. Са сваёй Лісанькай...

— Безумоўна, пойдзем, — кажу, — калі там буфет з півам будзе...

— Усё будзе. Але табе трэба апрануцца пад Зайца... Пад Зайку-белячка з хвосцікам...

Зірнуў я ў люстэрка на сябе і галавой заматаў: узрост не той, каб на адпаведнае месца прымацаваць сабе хвост, хоць і маленькі. Калі ўжо пад каго апранацца, дык апранацца пад каго-небудзь іншага. Можна на якую гадзіну стаць Мішкам касалапым. Толькі не касым.

Словам, атрымалася так, што на карнавал у Дом культуры я пайшоў проста чалавекам, а жонка — Лісой.

Няхай, думаю, забаўляецца. А я зайду ў буфет. Раптам бачу: ідуць да ёлкі ў залу яшчэ дзве Лісы. Цюцелька ў цюцельку, як мая Ліса.

Тым часам я наведаў буфет і вярнуўся ў карнавальную залу. Гляджу і ў вачах мітусіцца: дзве Лісы танцуюць вакол ёлкі з ладнымі Ваўком і Мядзведзем.

Зайздросна мне стала і нават крышачку крыўдна.

Падыходжу да Мядзведзя і краnаю за плячо:

— Ты глядзі, не вельмі... Гэта мая Ліса...

А Мядзведзь мне густым басам:

— Не блытайся пад нагамі, а то вось гэтай лапай як дам, дык забудзеш, які па ліку год сустракаеш.

Партнёрша хіхікае па-лісінаму.

А тут падбягаюць да мяне тры мушкецёры:

— Грамадзянін, не перашкаджайце праводзіць карнавал... А вы, Мядзведзь, будзьце чалавекам, не таўчыцеся, як таўкач у ступе...

Стаю, не ведаю, што рабіць. Аніякай да мяне ўвагі. Тады я падыходжу да Дзеда Мароза і прашу дазволу патанцаваць са Снягурачкай.

Дзед Мароз хоць і неахвотна, але дазволіў. Не паспеў я вывесці Снягурачку ў круг, як адна з Ліс кінула свайго Мядзведзя і апынулася каля мяне.

— Навошта Дзеда Мароза асіраціў? Не мог у Мядзведзя мяне адваяваць? Эх, ты! Зайка палахлівы...

Я не пакрыўдзіўся. Абрадаваўся, што жонка аб'явілася. Так і пратанцаваў з ёю ўвесь вечар.

Праўда, пасля карнавалу жонка была вельмі незадаволена: аказваецца, я танцаваў з чужою Лісою...

*«Вожык», № 24, 1975 г.*

---

**Алена МАСЦЕРАВА**

# Навагоднія летуценні Юзіка

З натуры

Юзік Смольскі і яго жонка Зося старанна рыхтаваліся да сустрэчы Новага года. Прыбралі ў кватэры, прыгатавалі салату «аліўе», засмажылі курыцу, наабіралі бульбы. Засталося толькі памыцца. Гэта Смольскія планавалі зрабіць у другой палове дня.

Але, адкруціўшы краны, убачылі замест чыстай празрыстай вады брудную карычневую вадкасць. «Трэба спусціць яе», — вырашылі гаспадары. Лічыльнік спраўна накручваў лішнія кубы, а з крана па-ранейшаму цякла карычневая вада. Кінулі Смольскія гэтую пустую справу. Памыцца ў іх атрымалася толькі ў новым годзе.

Пасля святаў пакрыўджаны Юзік патэлефанаваў у камгас. На яго скаргу дыспетчар адказаў, што вінаваты самі жыхары шматпавярховых дамоў. Маўляў, калі яны адначасова адкручваюць краны ў кватэрах, то вялікім напорам з труб змываецца іржа, пясок, асадкі і іншыя прыкметы зношаных водных сетак... «Аднак жа грошы камгас бярэ і за такую ваду!» — гнеўна заўважыў Смольскі. Ды не стаў спра-



Вернісаж

# Малюе Пётр КОЗІЧ








чацца, супакойваючы сябе тым, што не адны яны такія.

Перад наступным Новым годам, навучаныя горкім вопытам, муж і жонка вырашылі памыцца з раніцы. Але так задумалі і іншыя суседзі. У выніку з кранаў зноў замест чыстай празрыстай вады лілася брудная карычневая вадкасць... Мыліся ўсе зноў у новым годзе.

Пасля святаў абураны Юзік напісаў у камгас пісьмо. У ім ён прапанаваў скласці для жыхароў горада графік карыстання вадой у святочныя дні. Тады нагрузка на трубы будзе раўнамернай, і ніякі бруд з іх не змыецца. Потым крыху падумаў і дапісаў: «Таксама прапаную замяніць старыя водаправодныя трубы, фільтры, помпы на новыя».

Летуценнік наш Юзік, праўда?..

*г. Лагойск.*







Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Валянціны КАСЯК.








*Дружа Вожык!*

Перад Новым годам у адным з магазінаў гандлёвага цэнтра «Немигофф» можна было ўбачыць такі незвычайны кравецкі манекен. Напэўна, і самі прадаўцы здзіўляліся, наколькі добра яму падыходзіць галава Санта Клаўса...

Раю шаноўным чытачам таксама не баяцца эксперыментаў! А раптам атрымаецца што-небудзь смешнае і крэатыўнае?

**Ганна КІСЛУШЧАНКА,**
*г. Мінск.*

*Прывітанне, Вожык!*

Успамінаю свае гады ва ўнівесітэце, і адразу ж неверагодна цёпла на душы становіцца. Здаецца, што калі б хто дазволіў, то быў бы студэнтам усё жыццё.

Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт з такой марай і жаданнем можа дапамагчы. Праўда, толькі 95 гадоў вы можаце «Быць на тэрыторыі поспеху», але ці ж гэтага не хопіць?

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




## Анекдоты

***

Народная прыкмета.

Як дзяўчыне даведацца імя суджанага?

Прачнуцца ў калядную ноч і паглядзець у яго пашпарт.

***

Муж з жонкай запрашаюць сяброў у госці:

– Прыходзьце да нас на Новы год.

– На жаль, мы не зможам, – адказваюць тыя.

– Гэта так люба з вашага боку!




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




## Варона-бізнесменка

Адна Варона бізнесам заняцца
Надумала. Звяроў сабрала, птушак,
Крычыць: «Не варта рызыкі баяцца!
Патрэбныя мне кампаньёны дужа.

Прыбытак будзе праз хуткі час,
Цяпер прашу укласці інвестыцыі.
А справа, братцы, выгарыць у нас,
Бо добрую я маю інтуіцыю».
Тут кожны павалок усё, што мог:
І грошы, і гароднiну, і сала.
Мядзведзь гатоў быў свой аддаць бярлог,
Ліса трох курыц не пашкадавала.

Варона ж, быццам тая бізнес-лэдзі,
Квіткі «акцыянерам» штампавала.
Пасля сказала, што на форум едзе,
І з касаю усёй кудысь прапала...



***

Калі у бізнес клічуць кампаньёнам,
Падумай добра ды не будзь варонай.

**Мікола КІСЕЛЬ,**
*г. Мінск.*

## Мянтуз і канфуз

*Байка*

Зіма была ў разгары. І Мянтуз
Рашыў свае адзначыць імяніны,
Хоць сярод рыб не вельмі важны туз.
Каго запрасіць, хуценька прыкінуў.
Ламаўся стол: салаты, балыкі,
Халодныя заморскія малюскі.
Нястомна шчыравалі Шчупакі
Над выпіўкаю слаўнай і закускай.
У падарунках шмат было дабра:
Ад сетак, крыг да блешняў з серабра.
І тут Мянтуз заўважыў парасон,
Адразу здагадаўся: гэта Сом,
Якому сам калісь на нейкім свяце
Дарыў яго, бо лішнім быў у хаце.

***

Мянтуз і Сом адзін другога варты:
Ад байкі пахне не сяброўскім жартам.

**Вацлаў ХАДАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*




Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ
і Валянціны КАСЯК.

***

Самы лепшы нацюрморт — від на адчынены перадnавагодні халадзільнік.

***

Пастаўце сабе мэту — у новым годзе не кінуць курыць, не кінуць піць, не пачаць займацца спортам і не пахудзець.
І ў вас усё атрымаецца!

***

— Наша ёлачка гарыць!
— Сынок, не гарыць, а зззяе.
— Мама, мама! Фіранкі зззяюць!




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Валянціны КАСЯК.






***

Дарагая рэдакцыя! Адкажыце, калі ласка, Дзед Мароз сапраўды існуе? Бо мама кажа, што так, а жонка смяецца.

***

Вось дык цуда: кожны раз на Новы год на стале адныя і тыя ж стравы, а прыгоды заўсёды розныя!

***

– Гэты Дзед Мароз усё параблытаў! – скардзіцца прызыўнік. – Пятнаццаць гадоў таму перад Новым годам я прасіў яго падарыць мне ваенную форму. І толькі цяпер яе атрымаў...

***

Жанчын зразумець цяжка. Спачатку яны кажуць: «Як Новы год сустрэнеш, так яго і пражывеш», а потым: «Ой, як бы перастаць есці па начах!..»

***

– Які падарунак ты хочаш на Новы год? – пытаецца маці ў малой Леначкі.

– Дары, што пажадаеш, – адказвае тая, – галоўнае, сэнсарны ды з навушнікамі.










***

Калі вы хочаце, каб вашыя дзеці сустракалі Новы Год дома, – сыходзьце ў госці.

***

Самыя трывалыя адносіны пачынаюцца зімой. Калі вы спадабаліся адзін аднаму ў цёплай вопратцы, шапцы і з чырвоным носам – гэта сапраўднае каханне.

***

– Ты навошта параіў мне заклеіць на зіму вокны?
– Што, цяпер цёпла?
– Цяпер цёмна!



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

***

Калі ты хочаш, каб было ўсё добра, пакладзі на Новы год пад падушку шакалад. На раніцу ў цябе будзе ўсё ў шакаладзе!







***

– Ці прыходзіць Дзед Мароз на стары Новы год?
– Прыходзіць, але прыносіць толькі сэканд-хэнд...

***

Падарункі варта купляць у апошнюю хвіліну, каб пазбегнуць таўкатні сярод людзей, якія вырашылі купіць падарункі загадзя, каб пазбегнуць таўкатні.

***

Пасля ранішніка ў дзіцячым садку бацька кажа сыну:

– Ты ўжо вялікі хлопчык і павінен разумець, што ніякага Дзеда Мароза няма. Гэта быў я.

– Ведаю, – спакойна адказвае малы. – Ды і бусел – гэта таксама ты.

***

Двоечнік Вася 1-га студзеня прачнуўся з грудзьмі чацвёртага памеру. А вось не трэба было ў старэйшай сястры спісваць ліст Дзеду Марозу!









Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Валянціны КАСЯК.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Руслана БОГУША.

# 10 прыкмет сапраўднага Дзеда Мароза

У дзяцінстве многіх турбавала адно важнае пытанне: сапраўдны Дзед Мароз (ДМ) прыходзіць у дзіцячы садок на ранішнік альбо гэта нейкі пераапрануты дзядзька? «Вожык» нарэшце дапаможа разабрацца!

1. На нагах у сапраўднага ДМ павінны быць не мужчынскія туфлі, а валёнкі.
2. Сапраўдны ДМ любіць часта зазіраць у халадзільнік.
3. Сапраўдны ДМ просіць ласкавым голасам: «Раскажы мне вершык, дзіцятка!» Несапраўдны слухае першыя два радкі і перапыняе: «Хопіць, я веру, што ты вывучыў».
4. Сапраўдны ДМ прыходзіць з мехам падарункаў, а несапраўдны — з пакецікам.
5. Сапраўдны ДМ з'яўляецца ў кампаніі толькі адной Снягуркі, а не дзвюх, трох і г. д.
6. Снягурка ў сапраўднага ДМ апранутая ў футра, а не ў міні-спадніцу.
7. Ад сапраўднага ДМ пахне елкай, а не каньяком.
8. Сапраўдны ДМ прыязджае не на машыне, а на тройцы коней.
9. Калі вырваць валасок з барады сапраўднага ДМ і папрасіць айфон апошняй мадэлі, то жаданне спраўдзіцца.
10. Сапраўдны ДМ верыць у Дзеда Мароза.

**Вылучыла Карына ПАЦКО,**
*г. Жодзіна.*

# «ТАРЫ-БАРЫ» З «ВІНЕГРЭТАМ ПАД ФУРШЭТ»



«Кнігарня «Вожыка»

Анатоль Зэкаў — прызнаны майстар слова, які вылучаецца шматграннасцю таленту. У літаратурнай скарбонцы пісьменніка — не толькі выдатныя лірычныя вершы, але і гумарыстычныя ды сатырычныя творы самых розных жанраў. Невыпадкова ён стаў першым уладальнікам «Залатога Купідона» ў гэтай намінацыі. На рахунку аўтара (дарэчы, былога супрацоўніка часопіса «Вожык») шэсць «вясёлых» кніг. Прычым асабліва плённы на выданні бягучы год: сёлета свет пабачылі ажно два гумарыстычныя зборнікі А. Зэкава, з якімі мы хочам пазнаёміць нашых чытачоў.

Назва першай кнігі «Вінегрэт пад фуршэт», надрукаванай у выдавецтве «Чатыры чвэрці», цалкам адпавядае жанравай разнастайнасці зборніка. Гэта мікс з твораў самага рознага кшталту: апавяданняў, быляў, абразкоў, гумарэсак, мініяцюр, баек, эпіграм, вясёлых рэцэнзій і нават невялікай п’есы. Наша з вамі паўсядзённае жыццё — вось той удзячны матэрыял, у якім пісьменнік знаходзіць безліч нагод для ўсмешак. Мужы і жонкі, цешчы і зяці, бабулі і ўнукі — тыповыя героі ў тыповых і не зусім сітуацыях, паказаныя праз прызму аўтарскага добразычлівага ўспрымання. Каларытная беларуская лексіка, устойлівыя народныя выразы, увага да дэталей — мастацкая выразнасць спрыяе трапнай абмалёўцы гумарыстычных вобразаў. Адным словам, «літаратурна-кулінарны» шэдэўр аўтарства Анатоля Зэкава абавязкова прыйдзецца вам даспадобы.

Яшчэ адна кніга, закліканая ўзняць нам настрой, мае назву «Тары-бары». Яна пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» і цалкам складаецца з літаратурных пародый. Наследуючы лепшыя традыцыі жанру, аўтар прафесійна, далікатна, з лёгкай іроніяй пацвельвае самых розных паэтаў, знаходзіць новую, часта нечаканую і заўжды гумарыстычную, трактоўку іх твораў, тым самым нібы даючы ім другое жыццё. Чытачы часопіса не раз мелі магчымасць ацаніць талент Зэкава-парадыста, і сёння мы зноўку прадастаўляем ім такую прыемную магчымасць. Ад усёй душы віншуем Анатоля Мікалаевіча, нашага пастаяннага аўтара, з плённым набыткам на гумарыстычнай ніве! А вашай увазе, шаноўныя, прапануем некалькі твораў з новых кніг.

## Анатоль ЗЭКАЎ

### НОЧ З КАРАТКЕВІЧАМ

*Гамер мне так чытаў*
*калісьці «Іліяду»...*

***

*Я сёння з Караткевічам начую...*

***

*Я заўтра з Караткевічам начую.*

Аксана СПРЫНЧАН



Я сёння з Караткевічам начую.
Гамер на сон чытае «Іліяду».
Гамера, праўда, я зусім не чую,
Бо Караткевічу ўсё ж болей рада.

І чуе муж мяне ці то не чуе,
Ды мушу я сказаць яму ўсю праўду:
Я й заўтра з Караткевічам начую,
А можа быць, яшчэ і паслязаўтра...




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.

## КАХАННЕ НА СНЕЗЕ

*Я па снезе, што выпаў употай,*
*Да цябе на спатканне іду.*

***

*– А на снезе кахаць ты умееш?..*
*Шлюбным ложкам хай стане нам ён.*
*А прачнуся – і ўсё зразумею:*
*Гэта – сон, гэта – восеньскі сон.*

Эдуард АКУЛІН

Да цябе завітаў на спатканне,
Хоць здалёку шлях мусіў таптаць.
І скасіла мяне ты пытаннем:
– А на снезе ты ўмееш кахаць?..

Ад пытання твайго так знямеў я,
Бы язык хто іголкай скалоў.
– Я не ведаю, можа, і ўмею,
Ды такога яшчэ не было.

А сам зірк на дыван неабсяжны,
Што заснежыў зямлю неспадзеў.
Ай, ці ложак, ці снег – хіба важна?
Мне б кахаць цябе толькі – хоць дзе!

З сябе скінуць бы ўсё адным махам –
І на снег, у твой страсны палон!
Ды прачнуўся – магчыма, ад страху.
Аказалася, гэта быў сон.

*«Тары-бары», Мн., 2015 г.*

## ПА ЧЫМ ПЛАКАЦЬ?

*Гісторыйка*

Занемагла старая Ганна. «Так, глядзіш, – падумала, – і пamру, не змеціўшы». А куды ж дабро, гадамі нажытае? Расцягнуць злодзеі як піць даць – вунь колькі іх, непрацуючых, па вёсцы цяпер без справы бадзяецца!

Напісала дачцэ ў Казахстан: няхай, маўляў, унукі б прыехалі. Тыя і з'явіліся ўлетку: абодва высокія, статныя, калі і выраслі, бач. Старэйшаму ўжо дваццаць сем, а Змітрок – на два гады маладзейшы. Магла б, пэўна, і праўнукаў прычакаць, каб жаніліся.

Пагасцілі ўнукі ў бабулі з тыдзень, а там давай і ў шлях-дарогу збірацца. Напакавала Ганна іх – як панесці: і дыван скруціла, і посцілкі, і з адзення шмат чаго ўвязала. Ёй жа ўсё адно нічога не трэба, а дачка як знойдзе. І грошы, што мела, аддала амаль да капейчыны – пенсію ж носяць спраўна, адкладзе яшчэ на пахаванне.

Хлопцы ж як толькі селі ў цягнік, то і загулялі. А там яшчэ перасадка ў Маскве. Карацей, як ехалі, не памятаюць. Да маці ўваліліся з пустымі рукамі. Да ўсяго і без пінжакоў, што апраналі, адпраўляючыся да бабулі.

Пра ўсё гэта, нічога не ўтойваючы, дачка і напісала Ганне. Напрыканцы запытала толькі: «Скажы, мама, што ты ім хоць давала, каб я ведала, па чым плакаць...»

*«Вінегрэт пад фуршэт», Мн., 2015 г.*



---

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

## Як Анціп калядаваць хадзіў

*Быль*

Да вечара перад Калядамі заставаліся лічаныя дні. Напярэдадні свята некалькі аднавяскоўцаў мыліся ў лазні. Гутарылі пра рознае...

– Сёлета зноў калядаваць пайду, – рашуча сказаў Анціп.

– Любіш ты чужыя кілбасы! – паддаўшы пары, пацвеліўся з таварыша Рыгор.

– А што, калі такі звычай ёсць?

– Але, – пагадзіўся Даніла. – А праўда, што ты некалі ў калядны вечар ледзь са старой Дуняй не ажаніўся?

– Падман! – махнуў рукой Анціп. – Ну, падабраў яе валёнак. А што там немаладой бабе прымроілася... Калядаваць жа я сапраўды люблю. У гэты вечар адны дзівы адбываюцца! Напрыклад, увесь год цешча і сто грам шкадуе, а на Каляды самай лепшай самагонкай уволю частуе. Сусед – вялікі жмінда, а прыйдзеш у святы вечар – ён хатнюю каўбасу, ды не адну, сам у мех пакладзе.

– Такое ўражанне, што калядаваць ты ходзіш толькі па ворагах, – уставіў свае два словы Рыгор.

– І добрых людзей не мінаю, – не разгубіўся мужчына. – Словам, пайшлі мы ў той вечар калядаваць. Хто ў казу прыбраўся, хто ў мядзведзя...

Як толькі заходзім у хату, дык кажам: «Мы са святам вас вітаем, шчасця, радасці жадаем! Каб у вашай хаце было заўсёды што даці! Каб былі міскі, лыжкі памыты і вашыя дзеткі сыты! Каб мірна, весела жылося, каб хаце-




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Каб і хацеў — не прыдумаеш!

«Гэта быў малады азербайджанец мусульманскай нацыянальнасці».
(З заявы.)

«Нацельная бялізна пераехала ў новы павільён рынка «Усходні».

«Прадаецца двухпавярховы дом, ёсць лазня, гараж, склеп. Па дробязях не турбаваць!»

«Патрабуецца вадзіцель катэгорыі «Е» — цягач з аўтапрыцэпам».
(З аб'яў.)



**Запісаў Міхась СЛІВА,**
г. Рагачоў.

## Старое на новы лад



Спрынтара ногі кормяць.

Апетыт прыходзіць пасля шасці.

Любая рана загоіцца, калі добры ўрач возьмецца.

Ад'еўся, як пан, бо хадзіў у фастфуд-рэстаран.

Няма горшай долі, як забываць паролі.

Паміраць збірайся, а падаткі плаці.

Відаць па вачах, хто «анлайн» па начах.

Не піў бы, не еў бы, серыялы глядзеў бы.

**Перайначыла Ганна КІСЛУШЧАНКА,**
*г. Мінск.*

ліся і маглося!» Пасля такіх слоў наша каза брык — і на падлогу. А мы тут як тут: «Табе, гаспадынька, каляда, а нам давай пірага. Механошу — капу грошай. За кавалак сала — каб свіння дзверы выстаўляла!» Гаспадыня, што ні папросіш, усё дае. Калі ж няма чаго ўжо класці, наша каза раз — і падымаецца. «Дзякуй гэтаму дому, а мы пойдзем к другому», — ды за дзверы шусь!

— Ты далей кажы, не цягні ката за хвост, — падагнаў сябра Даніла.

— Словам, хадзілі мы так ад хаты да хаты. Засталася адна Яўхімава, што каля лесу стаіць. Мы туды вулачкай і пайшлі. І тут неспадзеўкі перада мной валёнак нібыта з неба зваліўся.

«Што гэта такое?» — пытаю ў таварышаў.

«Гэта, — кажуць, — дзяўчаты на лёс варожаць. «Узбройваюцца» абуткам з левай нагі і кідаюць праз вароты. У які з бакоў ён пакажа, там і жыве будучы муж. А табе, бачыш, валёнак проста ў ногі зваліўся!»

Я тады яшчэ быў не жанаты. Ну, думаю, вось ён, мой лёс. Падняў валёнак і не ведаю, што з ім рабіць.

А яны мне: «Ты пачакай, цяпер яго шукаць будуць. Вось і пазнаем, хто яна!»

Калядаваць далей ужо і ногі не ідуць! Гары яны, думаю, гарам, пачастункі Яўхімавы. І без іх амаль поўны мех. Стаў пасярод вуліцы з валёнкам і чакаю. Таварышы таксама нікуды не ідуць. Усім цікава: хто прыйдзе?

У гэты час на вуліцы з'явілася дзявочая постаць. Глядзім, аж да нас набліжаецца. Дык гэта ж мясцовая красуня Дар'я. У яе бацька — ветурач. Любую жыўнасць на ногі за пяць хвілін ставіць. Добры, думаю, цесць будзе. І сто грам любіць кульнуць.

«Добры вечар, святы вечар, Дар'я! Ці не твой абутак?» — пытаюцца таварышы.

А яна: «Вы што, блёкату аб'еліся? У мяне модныя боты-панчохі, а свае валёнкі насіце самі».




## РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе кнігу «Як мядзведзь пчаляром стаў»




У РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» ўжо стала добрай традыцыяй штогод выдаваць кнігу з серыі «Казачны куфэрак»: беларускія пісьменнікі не перастаюць радаваць нашых дзетак новымі казкамі. Трэба сказаць, у новым зборніку спіс аўтараў значна пашырыўся. Сярод тых, хто далучыўся да «Казачнага куфэрка», – Кацярына Хадасевіч-Лісавая, Георгій Марчук, Алена Стэльмах, Вольга Савасцюк і інш.

Кожная казка па-свойму арыгінальная і цікавая. Некаторыя з іх – падгледжаны ў паўсядзённым жыцці, іншыя – выключна вымысел пісьменніка. Так ці інакш, маленькаму чытачу будзе карысна пазнаёміцца з імі і даведацца пра штосьці новае.

P. S. Гэтае і іншыя выданні «Выдавецкага дома «Звязда» вы можаце набыць у любой з кнігарань ААТ «Белкніга», адрасы якіх шукайце на сайце www.belkniga.by, а таксама ў самім Выдавецкім доме па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.

Даведкі па тэлефонах 284-44-04, 288-12-94.

Інфармацыю пра наяўнасць кніг у крамах Мінска можна атрымаць па тэлефонах:

296-70-72, 292-70-72.

Сайт «Выдавецкага дома «Звязда» – www.zviazda.by

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

### Ліса-калядоўшчыца

Ноч не спалася Лісе –
Есці ўсё хацела.
А кладоўка пакрысе
Раптам апусцела.

– Што мне бегаць, мышкаваць?
Лепш пайду калядаваць
Без Ваўка:
Такі кумок,
Каб пасля ўсё не звалок.
Мне адной пры калядзе,
Што збяру, –
Перападзе!

Маску хуценька зрабіла,
Каб казою выглядаць,
Рогі з сучча начапіла:
Хто пад маскай –
Не пазнаць.
Бо лісу-зладзейку ў вёсцы
Зналі не па пагалосцы.
Адшукала кажушок,
Зношаны, казіны,
Узяла кіёк,
Мяшок
Аж на дзве карзіны.
І – да першага двара,
Да гаспадара.

– Го-го-го, я – каза,
Го-го-го – шэрая!
Хто сказаў, што каза
Не вячэрае?
Гаспадар, зрабі мне ласку,
Дай ці сала, ці каўбаску.



Засмяялася і пайшла. Значыць, не мой лёс.

Вырашылі пачакаць яшчэ. А тут якраз і другая прыгажуня на вуліцы паказалася – Маланння.

Тут я асмялеў ды пытаюся ў яе:

«Ці не ваш памерчык, Папялушка?»

Падышла, зірнула. Засмяялася. «Я што, у васямнаццатым стагоддзі нарадзілася, каб валёнкі насіць? У мяне вунь на нагах батфорты. Дый варажба ваша – лухта. Цяпер жаніхоў іншымі спосабамі знаходзяць». І пайшла сабе далей.

Ну, думаю, да д'ябла гэты валёнак! Пара ўжо калядныя каўбасы дзяліць. Аж тут старая Дуня са свайго двара на вуліцу выйшла.

«Вы, хлопцы, мой абутак часам не знаходзілі? Кот каўбасу са стала сцягнуў і за дзверы. Дык я ў яго з усёй сілы валёнкам сваім і запусціла».

Я як пачуў, дык валёнак той далей ад сябе адкінуў. Навошта мне такія нявесты?

«Не, кажу, не бачылі», – а сам іншым падміргваю, каб не выдалі.

А яны рагочуць: «Ён якраз Анціпу нашаму, маладому ды нежанатаму, пад ногі прызямліўся!»

Тут і бабуля сцяміла, што да чаго.

«Так-так, – кажа, – мне мужчына спатрэбіўся б у гаспадарцы. Дровы вось купіла, а пасячы няма каму».

«Не, дзякуй, – адказваю, – на гэтую ролю лепш за дзеда Пракопа не знайсці. Калі трэба, магу дапамагчы валёнак на яго ганак падкінуць».

«Патрэбны ён мне, як сабаку пятая лапа, – пакрыўдзілася яна. – І сама ў такім разе дам рады дрывам».

Забрала валёнак ды паклыпала да сябе.

Вось так пакалядаваў я тады. Праўда, і жаніўся ў тым жа годзе. Маруська мая – і без варажбы – самай лепшай жонкай аказалася!..

*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*

А я гэту каўбасу
За тры горкі панясу,
Да лясной паветкі,
Там чакаюць дзеткі,
Казляняткі родныя,
Як і я,
Гаротныя!

Гаспадар зірнуў з усмешкай:
– Дзе, якой блукала сцежкай?
Чуць не чуў,
Што так прыспела,
Каб каза каўбасы ела.
Сена маю, муражок,
Падстаўляй, каза, мяшок...

З хаты выбегла Ліса –
Толькі ў думках каўбаса.
Да суседняга двара
Падышла, спеў завяла:

– Го-го-го, я – каза,
Го-го-го – шэрая!
Хто сказаў, што каза
Не вячэрае?
Гаспадарык-гаспадар,
Маеш дзетак –
Божы дар.
Пакладзі ў мяшок паўкуркі –
Пагуляю з дзецьмі ў жмуркі.
А падорыш каўбасу –
Запляту малой касу.
Потым гэту каўбасу
За тры горкі панясу,
Да лясной паветкі,
Там чакаюць дзеткі,
Казляняткі родныя,
Як і я,
Гаротныя!

Гаспадар зірнуў з хітрынкай:
– Ты з мяшком,
А не з карзінкай?
Чуць не чуў,
Што так прыспела,
Каб каза ды курку ела.
Канюшыны ёсць стажок,
Наскубі сабе ў мяшок...

З хаты Ліска вылятае –
Толькі ў марах курка тая!
І – да трэцяга двара,
Да яго гаспадара:
– Го-го-го, я – каза,
Го-го-го – шэрая!

Хто сказаў, што каза
Не вячэрае?
Каб вялося ўсё ў аборы,
Прынясі кумпяк з каморы.
Будзе і за ласку,
Як дасі каўбаску.
Нават студню міску –
Дзеткам на аблізку.
Будзе не ў нагрузку,
Як дасі мне гуску.
Прынясеш смятанку –
Спяю ўнуку
Калыханку,
Будзе спаць пасля да ранку!

Гаспадар зірнуў з развагай:
– Што ж адна ты, бедалага?
Дзе ж твой кум,
Напарнік твой?
Што матляеш галавой?
Чуць не чуў,
Што так прыспела,
Каб каза ды скорам ела.
Ёсць у склепе качанок,
Можа, кінуць у мяшок?
А чаму ў цябе, казы,
Гэткі ж хвост,
Як і ў лісы?
Ды і голас не казіны,
А лісlівы,
Як лісіны.
Можа, нам Барбос падкажа?
На лісу ён злы за кражу:
Звалакла гуся з-пад носа.
Я ж не пахваліў Барбоса...

Ды не бойся,
Не трымці,
Пакаштуй маёй куцці.
Як-ніяк, усё ж Каляды,
А ў Каляды –
Госцю рады!
Гэй, Барбос,
Цю-цю, цю-цю,
Прынясі хутчэй куццю!

Дзе ўжо тут куцця ды куры!
Не застацца б хоць без шкуры!
Сіганула Ліска –
Да нары не блізка!
У нары шукала косці,
Пышны хвост кусала ў злосці:
– З-за цябе, паганы хвост,
У мяне –
Калядны пост!






Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Валянціны КАСЯК.

# Зімовыя ўсмешкі




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.






# Што піць?

Нейк у рубрыцы аб'яў
Дзед Нічыпар прачытаў:
«Дапаможа пры запоях
Знаны доктар Станіслаў».

А дзед выпіць быў мастак,
Больш за ўсё любіў пяршак.
Не адвучваў нават жончын
З доўгай ручкаю чарпак.

Сваю жонку дзед любіў,
Хоць і п'яны быў – не біў.
Трыццаць пяць гадоў, між іншым,
Як сумесна з ёю жыў.

Так нядоўга да бяды...
Раптам кіне – што тады?
Без жанчыны, як вядома,
Ні туды і ні сюды.

Дзед газету ўбок адклаў,
З-за стала паволі ўстаў,
Грошы ўзяў, пінжак накінуў,
Да ўрача пашыбаваў.

Вось заходзіць у пакой
Ціха, быццам сам не свой.
Доктар там у акулярах
Глянуў на яго савой.

Ростам лекар – о-го-го!
Абышоў дзядка кругом,
Пасадзіў на стул і раптам
На калена стаў нагой.

А пасля рукамі – хлоп!
Ды як дасць яму у лоб...
Дзед адразу паваліўся
На зямлю, нібыта сноп.

Ледзь пачуў, нібы праз сон:
«А цяпер каціся вон!
Піць не будзеш. За паслугі
Трэба заплаціць мільён.

Ведай, я не жартаўнік:
Не закладвай за кадык.
А калі хоць кроплю вып'еш,
Дык адразу і «кердык».

Ледзь дамоў прыплёўся ён,
Галава гудзе, як звон,
Быццам піў дзед без расолу
Самагонку дзесяць дзён.

Жарты жартамі – стары
Больш не піў ад той пары,
Калі нават выстаўлялі
Вельмі добры магарыч.

Ўсе пааддаваў даўгі,
Толькі шмат было тугі
У вачах. Казалі нават:
«Дзеду выбілі мазгі».

Вам такі зраблю наказ
(Ён датычыць усіх нас):
Каб мазгі былі на месцы,
Піце малако ды квас!

**Дзмітрый ДЗЕМІДОВІЧ,**
*г. Мінск.*




Малюнак Ганны ДЗЮКАВАЙ і Валянціны КАСЯК.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

# Сустракаем Малпу!

*Крыжаванка*

**Па гарызанталі:**

**1.** Загарадная прагулка кампаніяй з закускай на свежым паветры. **5.** Калі ... чыхнула – да дажджу (прыкмета). **7.** «Чалавек сапраўды падобны да малпы: чым вышэй ён залазіць, тым больш дэманструе свой ...» (афарызм Ф. Бэкана, англійскага філосафа). **9.** Пакуль бог у вароты, дык ... цераз плот (прыказка). **10.** Зімні ... глыбокі – летам хлеб высокі (прыкмета). **12.** Каштоўны камень чырвонага колеру, сімвал кахання. **13.** Імем гэтага старажытнарымскага палкаводца названа салата. **16.** Любімы ласунак малпы. **17.** Не тое смешна, што ... мужа б’е, а тое смешна, што муж плача (прыказка). **19.** Паэт і музыкант, выканаўца ўласных песень. **20.** Зваранай рыбе ... не патрэбна (прыказка). **21.** Фанабэрыя, пыха. **22.** Месца на галаве, адкуль «збеглі» валасы. **25.** У ... дурня адчуваеш сябе крыху разумнейшым. **26.** ... як птушка: выпусціў – не вернеш (прыказка). **29.** «Вось і ў нашай хаце ... – \\ Надыходзіць Новы год. \\ Я жадаю маме з татам, \\ Каб жылі яны сто год» (прыпеўка). **33.** Агульная згода па спрэчных пытаннях. **35.** Тое, што атрымліваецца ў выніку складання велічынь. **36.** Грашовыя сродкі, якія накопліваюцца шляхам збору на карысць чаго або каго-небудзь. **37.** «Не дай божа з такім лёсам \\ Любіць хлопца з доўгім носам: \\ Каб яго пацалаваць, \\ Трэба ... адпілаваць» (прыпеўка). **39.** Месца, дзе можна схавацца. **40.** ... гнядая, жарабя рабое – паеў воўк абое (прыказка).

**Па вертыкалі:**

**1.** Смех падаўжае жыццё. Але толькі тым, у каго ёсць ... гумару. **2.** Бяда ў тым доме, дзе ... пяюць, а пеўням волі не даюць (прыказка). **3.** ..., што зярнят не мае, угару лоб задзірае (прыказка). **4.** Танцавальны крок. **5.** Душа чалавека не ..., не вывернеш (прыказка). **6.** «Ой, я знаю, знаю, \\ Хто жаніцца хоча: \\ Ля паненак ходзіць \\ І, як ..., рагоча» (прыпеўка). **7.** «Малпа курыць папяросу \\ І дымок пускае з носу. \\ Запішчалі камары: \\ «Хопіць, малпа, не куры! \\ Бачыш, ... ў палоску, \\ А не курыць папяроску» (з верша А. Старынчыка). **8.** Вуда для лоўлі рыбы са дна вадаёма. **11.** ... – гэта здольнасць бачыць тры бакі аднаго медаля (афарызм Н. Рорэма, амерыканскага кампазітара). **14.** Якім бы ні было ваша ..., яго хопіць вам да канца жыцця. **15.** Для каго праца – ..., для таго жыццё – шчасце. **17.** Адлюстраванне навакольнага свету ў фарбах. **18.** Трутню кожны дзень ... (прыказка). **23.** Нахільная паверхня гары, адхон. **24.** «На дрэве, на суках, між зелені густой, \\ ... малпаў раз сядзела» (з байкі І. Крылова ў перакладзе К. Крапівы). **27.** Лясны дух паводле славянскай міфалогіі. **28.** Перамяшчэнне куды-небудзь таго, што нясуць. **30.** У прыгожым адзенні і ... прыгожая (японская прыказка). **31.** ... багаты – яму добра, сабака кудлаты – яму цёпла (прыказка). **32.** На ... не адказваш смехам – ... пакрыўдзіцца (туркменская прыказка). **34.** У страху ... па яблыку (прыказка). **38.** Маленькі барадаты чалавечак, які, паводле міфалогіі, жыве пад зямлёй.

**Адказы**

**Па гарызанталі:** **1.** Пікнік. **5.** Кошка. **7.** Зад. **9.** Чорт. **10.** Снег. **12.** Карбункул. **13.** Цэзар. **16.** Банан. **17.** Жонка. **19.** Бард. **20.** Вада. **21.** Форс. **22.** Плех. **25.** Дзень. **26.** Слова. **29.** Свята. **33.** Кансэнсус. **35.** Сума. **36.** Фонд. **37.** Нос. **39.** Схова. **40.** Кабыла.

**Па вертыкалі:** **1.** Пачуццё. **2.** Куры. **3.** Колас. **4.** Па. **5.** Кажух. **6.** Конь. **7.** Зебра. **8.** Донка. **11.** Гумар. **14.** Здароўе. **15.** Радасць. **17.** Жывапіс. **18.** Нядзеля. **23.** Адкос. **24.** Чародка. **27.** Лясун. **28.** Вынас. **30.** Малпа. **31.** Мужык. **32.** Смех. **34.** Вочы. **38.** Ох.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*



Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Валянціны КАСЯК.




## Абмен падарункамі

*Звычайна, каб выбраць дзецям навагоднія падарункі, бацькі загадзя і не дакучліва распытваюць іх пра мары. «Вожык», скарыстаўшыся магчымасцямі інтэрнэту, даведаўся ў сучасных студэнтаў, ці вераць яны ў Дзеда Мароза ўвогуле, і калі так, то якімі падарункамі гатовыя з ім абмяняцца.*

Што вы хацелі б атрымаць на Новы год у якасці падарунка?
«Нешта добрае, чароўнае, пяшчотнае...»
«Фотаапарат Canon EF 50mm f/1.8 II».
«1. Жалезны канструктар; 2. Тамагочы; 3. Яшчэ можна раба... Так, гэта было б нядрэнна!»
«Усё, што заўгодна. Мне будзе прыемна атрымаць любы падарунак!»
«Паменш пар і лёгкую сесію».
«Адзінае жаданне – з'ездзіць дадому і адпачыць!»
«Такую работу, каб нічога не рабіць і атрымліваць вялікія грошы».

А што б вы самі падарылі Дзеду Марозу?
«Гледзячы, які Дзед Мароз».
«Пуцёўку на Мальдзівы».
«Пераб'ецца. Ніколі да мяне не прыходзіў...»
«Для мяне Дзед Мароз – гэта толькі добрая і прыемная казка з дзяцінства».
«Яшчэ адну Снягурачку!»
«Ягоны партрэт, каб павесіў у сябе над сталом у працоўным кабінеце і радаваўся, што пра яго памятаюць!»

**Распытвала Ганна КІСЛУШЧАНКА,**
*г. Мінск.*

Рыфмаваныя анекдоты

## Панікёр



Бяжыць па лесе шэры Заяц,
Спалоханы, крычыць-гукае:
– Сустрэў камісію за лугам!
Хавайцеся, бо будзе туга.
Шукаюць лішнія хвасты
Бабёр, Лісіца, два Краты.
– Чакай, патрэбна разабрацца, –
Сказаў Барсук. – Чаго баяцца?
Ты ж маеш хвост ўсяго адзін,
Няма для панікі прычын.
– Ды, кажуць, тут не ўсё ў парадку,
Бо будуць адразаць спачатку
Хвасты, а потым іх лічыць:
Маўляў, так лепей прасачыць...



**Аляксандр КАЗЯЛКОЎ,**
*г. Маладзечна.*

## Лысых не было!



Пазванілі у кватэру,
Ўнук адкрыў – стаіць дзядок.
Лысаваты, невысокі,
Абапёрся на кіёк.
Так і так, маўляў, прыехаў
Трошкі пагасціць да вас,
Некалі хадзіў з дзядулем
Я тваім у трэці клас.
Пабег хлопчык клікаць дзеда,
Разхлаваўся той: «Трапло!
Калі я вучыўся ў школе,
У нас лысых не было!»






**Эра СТАВЕР,**
*г. Салігорск.*

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 12 (1526), 2015 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.
Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.
Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Камп'ютарная вёрстка: Ніна УРБАНОВІЧ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана да друку 10.12.2015. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,29. Тыраж 1404 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.
Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.






Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

## Падпішыся – не журыся!

Хто настрой
падняць вам можа?
Безумоўна, сябра
«Вожык».
Гумарам любыя раны
Лечыць «Вожык»
пастаянна.
Недарэкаў выпраўляе,
Крытыкуе, настаўляе.
Тым, хто хоча пасмяяцца,
Я параю падпісацца.
Тут малюнкі, гумарэскі,
Байкі, казкі, іранескі...
Жартаў трапных
б'е крыніца,
Можна ўсім з яе напіцца!

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

***

– Куды падзелася ваша Снягурка? – пытаюцца ў Дзеда Мароза.
– Ёй нагаварылі столькі кампліментаў, што яна растала!

***

Раніца 1 студзеня. Крама.
– Дзяўчына, хлеб свежы?
– Не, леташні!

***

Зірнуўшы ў люстэрка раніцай 1-га студзеня, я зразумеў, што 2016-ы год Малпы – дакладна МОЙ год!




**Хто такі «Хэнэк»?**
**Чым небяспечная шчырасць?**
**Колькі на небе зорак?**
**Як добра з'ездзіць у камандзіроўку?**

**І многае-многае іншае! Да сустрэчы!**

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 30600 рублёў,
індэкс 01380, цана 24400 рублёў,
індэкс 748442, цана 88800 рублёў,
індэкс 01381, цана 70000 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

